

**Весткі й Паведамленьні**

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
*P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 8(654)**
**Жнівень 2020 г.**

# Вайна супраць помнікаў - цывілізацыйны выклік Амэрыцы

Нядаўнія падзеі, зьвязаныя са сьмерцю падчас затрыманьня паліцыяй крымінальніка-рэцыдывіста і, паўстаўшы пасьля гэтага, пагромны фэстываль з падпаламі й рабаваньнямі нагадвае папярэднія ўзоры, калі былі апублікаваныя кадры зьбіцьця паліцыяй крымінальніка Родні Кінга ў Лёс-Анджэлесе, забойства ў выніку самаабароны кандыдата ў крымінальнікі (так ён пісаў на сваім Фэйсбуку) Трэйвана Мартына ў Флёрыдзе, крымінальніка Майкла Браўна ў Мізуры, рэцыдывістаў Фрэды Грэя ў Мэрылэньдзе й Эрыка Гарнэра ў Нью-Ёрку (Статэн-Айлэнд). Відавочна, што гэтым разам ёсьць істотнае адрозьненьне – пэўныя сілы спадзяваліся на чарговы выхад відэа з "паліцай-брутальнасьцю" і былі добра падрыхтаваныя да пагромнага фэстывалю, які пераўзыйшоў усе папрэднія.

Асноўнаю тэзаю нябачных рэжысэраў-падбухторшчыкаў стала перасьлынная "паліцай-брутальнасьць" ды "сыстэмны расізм" у Амэрыцы. Безумоўна, гэта вельмі хітрая знаходка радыкалаў, бо пакуль будуць чорныя злачынцы, і пакуль ня зьнікне паліцыя, мы раз-пораз будзем рабіцца сьведкамі зафільмаваных сцэнаў, калі крымінальнікі аказваюць супраціў паліцыі, а паліцыя ўжывае ня дужа фотагенічныя мэтады, каб падпарадкаваць падазраваных у злачынстве. Ніхто, канешне, не парупіўся глянуць статыстыку, колькі ж белых крымінальнікаў гіне штогод ад рук паліцыі пры затрыманьні. Іх, дарэчы, значна болей, чым афраамэрыканцаў. Але справа супраць паліцыі ўжо гатовая! Яшчэ да сьледства і да суду тысячы, а хіба мільёны "экспэртаў-крыміналістаў" на канапах перад тэлевізарамі ўжо вынесьлі свой вырок.

Немалую адказнасьць за распальваньне настрояў супраць паліцыі ды падаграваньня фальшывай тэорыі "сыстэмнага расізму" нясуць масавыя сродкі, што заміж заклікаў да стрыманасьці й хаця б выхаду афіцыйных дэталяў сьледзтва стала паўтараць лявацкую анархіскую хлусьню пра ЗША. Што такое "паліцай-брутальнасьць", як можна затрымліваць 250-фунтовых накачаных крымінальнікаў без ужываньня сілы, і што такое "сыстэмны расізм" – ня можа з пэўнасьцю сказаць ніхто. І вось таму пасьля пагромаў і рабаваньняў, што засталіся без законнага пакараньня, і якія былі сарамліва ахрышчаныя "пратэстамі", пачынаецца новая фаза. Ізноў жа, бандыты спадзяюцца на беспакаранасьць. Але цяпер няпэўнасьць пераносіцца ў сфэру штодзённай практыкі. Анархісты захопліваюць часткі Сіэтлу, як было па ўсёй Амэрыцы ў 2011 годзе – мэр фактычна салідарызуецца зь імі. Калі прэзыдэнт Трамп вымусіў сілаю разагнаць гвалтоўны натоўп каля Белага Дому, што дарэчы апаганілі графіцямі помнік нацыянальнаму герою ЗША Касьцюшку, падняўся вэрхал, што пакрыўдзілі "мірных бяскрыўдных пратэстантаў." Ніхто ня ведае, што рабіць, і як рабіць. Баязьлівасьць і крывадушнасьць прыносяць свае вынікі – бандыты не баяцца, усе баяцца іх.

І тут увага пагромшчыкаў пералучылася на помнікі. Баязьлівыя мэры й губэрнатары, што безудзельна глядзелі на тое, як паляць і рабуюцца іхныя гарады, цяпер гэтак жа інгаруюць руйнаваньне помнікаў, сымболяў амэрыканскай гісторыі. Без абмеркаваньня, без закону, па-бандыцку зносяцца помнікі, што сотні гадоў стаялі на амэрыканскай зямлі й адлюстроўвалі складаную і слаўную гісторыю краіны. Пачалося з помнікаў дзеячам Канфэдэрацыі, і многія лібэралы кінуліся апраўдваць такія дзеяньні, маўляў, слушна, так і трэба. Але неўзабаве ў ліку апаганеных і абрынутых помнікаў апынуліся Калюмб, айцы-заснавальнікі Амэрыкі Джордж Вашынгтон і Томас

*заканчэньне на бачыне 4*



# Неабходнасьць байкоту ў час эйфарыі



Верагодна, Ціханоўскую могуць зьняць з выбараў, каб ня мець лішніх клопатаў для рэжыма. Агітацыю людзей на фальшывае галасаваньне пад уплывам групоўкі Газпрама-Цапкалы яна ўжо зрабіла. Прытым гэтая групоўка правяла нават прэвэнтыўную прапаганду за прыход на фальшывае галасаваньне (галасаваць супроць ўсіх) у выпадку, калі Ціханоўскую сапраўды здымуць з выбарчага спаборніцтва. Вельмі паказальная пазыцыя.

Навошта гнаць людзей на фальшывае галасаваньне супраць ўсіх, калі там галасоў ня лічаць? Лягічна якраз праігнараваць такое галасаваньне, зафіксаваць няяўку, падаць дакументы ў ЦВК і Пракуратуру ды законна запатрабаваць новыя выбары з новымі кандыдатамі. Навошта так упарта пры любых абставінах хочуць загнаць людзей галасаваць? Вынік жа такога галасаваньня вядомы — трыюмф Лукашэнкі.

Тут можна ўгледзіць хіба што правакацыйную мэту. Людзі па закліку масава прыходзяць галасаваць супраць ўсіх з адной ўзбуджанай думкай — “Абы не Лукашэнка!” І раптам яны даведваюцца, што Лукашэнка набраў 76,2 адсоткі галасоў. У сьвядомасьці наіўнага і ўзлаванага электарату адбываецца тое, што ў псыхалёгіі называецца “шок”.

Дастаткова любой правакацыйнай ініцыятывы, каб узьніклі неабдуманыя пратэстныя дзеяньні — да якіх рэжым падрыхтаваны — і пачаўся б заплянаваны разгром беларускага грамадзтва, яшчэ не гатовага да жорсткай барацьбы. Для Крамля гэта мара — зьнішчыць беларускія нацыянальна-дэмакратычныя парасткі рукамі рэжыму Лукашэнкі. Пры аказіі Масква Лукашэнку і дапамагчы магла б.

Усё гэта беларусы праходзілі ў 2010-м. Цяпер трэба арганізавацца і дзейнічаць разумна. Лукашэнка ўжо доўга не ўтрымаецца. Але трэба не падставіцца пад разгром.

Узбуджаная маса без арганізацыі, без разумных палітыкаў, без уяўленьня праграмы барацьбы, без разуменьня рэальнай мэты і рэалізацыі задачаў, урэшце, бяз ідэалаў, паднятая на адной нянавісьці да ўзурпатара і зь лёзунгам “Абы не Лукашэнка”, такая маса здольная толькі на бунт, які хутка канчаецца, з дрэннымі вынікамі для грамадзтва. Такі цяпер стан нашай беларускай супольнасьці. Пратэстны настрой павярхоўны. Прытым адукаваныя аўтарытэтныя людзі, якія не былі ў палітыцы, нічога ня бачаць, нібы сьляпыя, і гавораць, як дзеці. Крэмль тое разумее і хоча мець сваю выгаду.

**БАЙКОТ — ГЭТА САМЫ ПРОСТЫ І НАДЗЕЙНЫ СПОСАБ ЗАВАЛІЦЬ ФАЛЬШЫВЫЯ ВЫБАРЫ.** Непрыход на галасаваньне паддаецца відавочнаму падліку і дакумэнтаваньню. Дзеяньне зразумелае кожнаму.

Некаторыя прапануюць фатаграфаваць бюлетэні і адсылаць здымкі ў сеціва. Потым зборку бюлетэняў будуць параўноўваць з афіцыйным галасаваньнем і рабіць высновы. Гэты мэтад нават тэарэтычна груваскі, працаёмкі, доўгатэрміновы і, практычна, неажыцьцявімы. Спробы фатаграфаваньня могуць быць спынены рашэньнем ЦВК альбо дзеяньнямі камісіяў (з прыцягненьнем міліцыі). Прытым можа быць адключаны Інтэрнэт, заблакаваныя асобныя функцыі сувязі і т. п. Тут ёсьць шмат магчымасьцяў супроцьдзеяньня для рэжыму.

Адкідайма ўсё гэтае “рацыяналізатарства” і бярэмся за байкот фальшывага галасаваньня.

Ня йдзем на выбары і фіксуем непрыход на ўчасткі!

*26 ліпень 2020 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

# Плян групоўкі Газпрома

Масква (якая, у адрозьненьне ад 2010 году, цяпер дзейнічае схавана на выбарах у Беларусі) правяла эфэктную маніпуляцыю, і становішча на беларускай палітычнай сцэне кардынальна перамянілася. Сьвятлану Ціханоўскую і яе групу аб’яднালі з групамі банкіра Бабарыкі і гэбіста Валеры Цапкалы і рэальна засьведчылі агульную пазыцыю групоўкі Газпрама. На першым этапе галоўнае ў тым, што Ціханоўская адмовілася ад байкоту фальшывых выбараў і стала заклікаць людзей на масавае галасаваньне.

20-га ліпеня Сьвятлана Ціханоўская ў запланаваным выступе па радыё агучыла праграмныя палажэньні групоўкі Газпрама і свае пажаданьні. Чытаньне і аналіз праграмнага выступу паказвае, што калі б, напрыклад, яна перамагла на гэтых фальшывых выбарах, то дзеяньні яе былі б наступныя:

1. На пачатку (мінімум на паўгода) застанецца дзейнічаць канстытуцыя дыктатуры 1996 году (а значыцца прызнаюцца вынікі лістападаўскага дзяржаўнага перавароту 1996 году).

2. Застаецца ўся адміністрацыя і чыноўнікі лукашысцкай сыстэмы (вертыкаль).

3. У гэтай сытуацыі Ціханоўская будзе валодаць усімі паўнамоцтвамі заканадаўства лукашысцкай дыктатуры. Без групы падтрымкі такое валоданьне ўладай ажыцьцявіць няпроста. Каманда ў яе чужая (дакладней газпрамаўска-маскоўская).

4. На працягу шасьці месяцаў, валодаючы неабмежаванымі паўнамоцтвамі, Ціханоўская і група вакол яе (якая будзе ўсё вызначаць) рыхтуюць новыя выбары прэзыдэнта згодна з Канстытуцыяй дыктатуры 1996 году (!) і адначасна разам з выбарамі праводзяць рэфэрэндум па вяртаньні і прэпарацыі Канстытуцыі 1994 году (якую незаконна ліквідаваў Лукашэнка).

Я ня ўпэўнены, ці разумее Ціханоўская, што яна агучыла, але гэта ёсьць сфастрыгаваны белымі ніткамі чарговы маскоўскі плян легальнага захопу ўлады ў Беларусі нібыта дэмакратычным чынам (з магчымасьцямі для банкіра Бабарыкі, гэбіста Цапкалы і іншых, якія ўзьнікнуць).

### Аб канстытуцыі і ўладзе

Найперш паўтару элемэнтарнае. Пасьля зьмены ўлады (калі зыходзіць з лёгікі палітычнай справядлівасьці і нацыянальных інтарэсаў) мусяць быць ліквідаваныя вынікі лістападаўскага антыпраўнага дзяржаўнага перавароту 1996 году. Канстытуцыя 1994 году вяртаецца аўтаматычна рашэньнем Канстытуцый-

*заканчэньне на бачыне 4*

Беларусь - Амэрыка: лёсы землякоў

# Уладыка Васіль (Уладзімер) ТАМАШЧЫК - беларускі рэлігійны і нацыянальны грамадзкі дзеяч

Праваслаўны сьвятар (архіяпіскап), рэлігійны дзеяч і публіцыст Уладзімер Тамашчык (у царкоўным жыцьці ераманах, потым ярэй і затым праваслаўны япіскап Васіль) нарадзіўся 15 красавіка 1900 г. у вёсцы Вялікія Азяраны Гарадзенскага павету на Гарадзеншчыне. Бацькі зь цяжкай ахвярнай працы набылі сядзібу Дубляны ля Вялікай Бераставіцы, імкнуліся даць адукацыю сваім дзецям. Уладзімер навучаўся ў школе ў Горадні.

Праз год пасьля пачатку Першай сусьветнай вайны сям'я Тамашчыкаў была змушаная падацца ў бежанства ўглыб Расеі. Са сьнежня 1915 году яны жылі ў Омску, дзе Ўладзімер скончыў сярэнюю школу. У 1921 годзе Тамашчыкі, ужо бяз бацькі, які памёр у Расеі, вярнуўся ў Беларусь, у Дубляны, што апынуліся пад Польшчай.

У 1920-я гады Ўладзімер Тамашчык далучыўся да беларускага нацыянальнага руху, пачаўшы цікавіцца беларускім друкам, што выходзіў у Вільні. Тамашчык чытаў і прапагандаваў беларускія выданьні, распавядаў пра тыя падзеі, якія адбываліся на беларускіх землях пад Польшчай. У 1927 годзе ён быў арыштаваны польскімі ўладамі і засуджаны на 3 гады турмы.

У 1930 годзе выехаў у Чэхаславаччыну, дзе вучыўся на агранамічным факультэце Праскага палітэхнічнага інстытута. Пасьля сканчэньня Палітэхнікі ў 1934 годзе Тамашчык быў запрошаны на пасаду асыстэнта Праскага інстытуту заалёгіі. Адначасна ён быў сакратаром старшыні Рады БНР Васіля Захаркі, які жыў у Празе. Падчас Другой сусветнай вайны Тамашчык вярнуўся на кароткі час на бацькаўшчыну ў Дубляны, а пазьней перабраўся ў Беласток, дзе працаваў намесьнікам рэдактара беларускай газэты “Новая дарога”, браў удзел у беларускім нацыянальным жыцьці. Дзякуючы веданьню нямецкай мовы, Уладзімер Тамашчык спрычыніўся да ратаваньня шмат беларусаў ад нямецкага перасьледу. Падчас паховінаў забітага савецкімі партызанамі ў 1943 годзе бурмістра Менску Вацлава Іваноўскага Ўладзімер Тамашчык прамаўляў на могілках як прадстаўнік ад беларусаў Беласточчыны. У 1944 годзе Тамашчык выехаў у Нямеччыну і пасьля вайны жыў і працаваў у Мюнхэне. Ён быў абраны старшынём Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Нямеччыне.



Акурат у той час у Нямеччыне адбыліся драматычныя падзеі, зьвязаныя з абвешчанай у Менску ў 1942 годзе аўтакефаліяй беларускай праваслаўнай царквы. Нямеччына стала тады часовым прытулкам для тысячаў беларусаў, што зрабіліся “перасунутымі асобамі”, Ды-Пі (ДП). Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква (БАПЦ) была абвешчаная яшчэ ў 1922 годзе, потым была зьнішчаная бальшавікамі і адноўленая падчас вайны. Аднак у траўні 1946 году большасьць клеру і япіскапаў БАПЦ далучыліся да Расейскай Замежнай Царквы, фактычна ўчыніўшы акт нацыянальнай здрады супраць беларускага народу, завуаляваўшы яго ў “царкоўныя патрэбы”. Частка сьвятароў і значная кольказсьць вернікаў БАПЦ засталіся верныя ідэі аўтакефаліі. Сярод іх быў і Ўладзімер Тамашчык.

У красавіку 1948 году ён пастрыгся ў манахі і прыступіў да навучаньня на тэалягічным аддзеле Украінскага ўнівэрсытэту ў Мюнхэне. Не перарываў ён і грамадзкай дзейнасьці, браў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзеньні Першага сусветнага зьезду беларускай эміграцыі, які адбыўся ў Парыжы ў лістападзе 1948 году.

Дбаньнем беларускіх праваслаўных патрыётаў у чэрвені 1949 году ў горадзе Канстанцы (Заходняя Нямеччына) адбыўся Сабор сьвятароў і вернікаў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, які пацьвердзіў аўтакефалію і важнасьць духовага пастырства сярод праваслаўных беларусаў на чужыне, асабліва ў ДП-лягерах, і пастанавіў разбудоўваць структуры БАПЦ у Вольным Сьвеце. Актыўным удзельнікам сабору быў У. Тамашчык, які стаў ужо ярэем-ігуменам (сьвятаром) БАПЦ, а ў сьнежні 1949 году быў хіратанізаны (рукапакладзены) у япіскапы, пад імём япіскапа Менскага і Віленскага.

Неўзабаве япіскап Васіль перабраўся ў ЗША, і ў 1951 годзе ён быў абраны адміністратарам БАПЦ у ЗША, Канадзе і Эўропе. Япіскап Тамашчык жыў у Нью-Ёрку, дзе арганізаваў япіскапальны цэнтар БАПЦ у Паўночнай Амэрыцы. Акрамя ЗША Ўладыка Тамашчык спрычынўся да адкрыцьця новых парафіяў і высьвячэньня новых сьвятароў БАПЦ у Брытаніі, Бэльгіі, Аўстраліі, шмат езьдзіў па сьвеце.

Уладыка Васіль застаўся зацікаўлены беларускімі культурніцкімі справамі і стаў першым Старшынём Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва (БІНіМ). Уладыка Тамашчык апекаваўся беларускай ндзельнай школкай пры Саборы сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне і займаўся з вучнямі законам божым.

Архіяпіскап Васіль Тамашчык актыўна ўдзельнічаў у грамадзка-палітычным жыцьці беларускае эміграцыі. Так, 21 сакавіка 1957 году ён упершыню прачытаў малітву ў Амэрыканскім Кангрэсе, а пазьней выступаў з малітвамі ў Сэнаце і Кангрэсе ЗША у сувязі з угодкамі абвешчаньня БНР у 1964, 1965 і 1967 г. г. Ён быў асабіста знаёмы з прэзыдэнтамі ЗША Лынданам Джонсанам і Рычардам Ніксанам.

Уладыка Тамашчык быў зацятым антыкамуністам, выкрываў перасьлед Саветамі рэлігіі й вернікаў, меў рэгулярныя праграмы на Радыё “Свабода“ (беларускае вяшчаньне). Архіяпіскап Васіль Тамашчык імкнуўся да еднасьці беларускай грамады на чужыне і спадзяваўся, што Бацькаўшчына стане вольнай і незалежнай. Ягоны нечаканы сыход з жыцьця пры нявысьветленых абставінах у 1970 годзе стаў вялікай стратай для беларускай грамады ў Амэрыцы ды й па ўсім сьвеце.

***Віталь ЗАЙКА***

## Вайна супраць помнікаў...

**заканчэньне з бачыны 1**

Джэфэрсан, аўтар словаў нацыянальнага гімну Фрэнсыс Скот Кій, генэрал-пераможца Канфэдэрацыі Ўлісус Грант. Вандалы спрабавалі зваліць помнікі Пуласкаму й Эндру Джэксану. Амэрыканскі Музэй Натуральнай Гісторыі зьбіраецца прыбраць помнік Тэадору Рузвэльту. Атрымліваеца, што ўся гісторыя Амэрыкі знайшлася пад шквальнай атакай анархічных лявацкіх сілаў, і яна была падтрыманая праз згоду або бязьдзейнасьць дэмакратычных, але часцяком і рэспубліканскіх, мэра і губэрнатараў. Пляжаньне й рабаваньне помнікаў праз сучасных барбараў і вандалаў падтрымліваецца пост-фактум празь бюракратычнае замацаваньне зробленага баязьлівымі й маладушнымі мясцовымі ўладамі. Выглядае, што кожны помнік, кожны заслужоны дзеяч заходняй цывілізацыі, які сёньня яшчэ стаіць, заўтра можа быць абрынуты – бо знойдуцца нейкія хібы ці нейкая неадпаведнасьць лявацкай догме. Тое, што перад нашымі вачыма адбываецца незаконны, супярэчны лёгіцы й глузду пэрформанс, яшчэ доўга застанецца ганьбаю Амэрыкі, цёмнымі днямі ў ейнай гісторыі.

Характэрна, што банды вандалаў і марадзёраў складае пераважна белая моладзь з заможных сем'яў, у якіх мусіла б хапіць адукаванасьці й аналітычных здольнасьцяў, каб спыніцца і прааналізаваць тое, што твораць іхныя рукі. Але найбольшая віна ляжыць на сыстэме адукацыі ЗША, прадстаўнікі якой год за годам убівалі ў галовы дзяцей і моладзі пагарду да свае зямлі, да яе сымболяў, да яе гісторыі. Седзячыя ў вежах слановае косьці нэалібэральныя "валадары думаў" кіруюць ідэаямі, што пасьля ўвасабляюцца ў пагромы й рабункі, вандалізм і гвалт, у страту жыцьцяў людзей. Чым хутчэй краіна зможа спыніць вайну супраць помнікаў, супраць гісторыі, супраць цывілізацыі – тым рэальней надзея на тое, што Амэрыка пераадолее гэты створаны лайдакуючымі без заняткаў маладзёнамі ды дэстабілізуючымі сіламі крызіс, фактычна – цывілізацыйны выклік. Але ці ня пройдзеная ўжо кропка незвароту, калі ў амэрыканскай гісторыі для новых пакаленьняў яе грамадзянаў, як выглядае, не засталося нічога сьвятога, нічога, вартага павагі.

***Віталь ЗАЙКА***

## Плян групоўкі Газпрома

**заканчэньне з бачыны 2**

нага, ці Вярхоўнага суда, Ураду, Прэзыдэнта ці парлямэнту (калі б ён быў). Рэфэрэндум тут не патрэбны і не законны.

Па пляну групоўкі Газпрама, нікаму непатрэбны рэфэрэндум яны яшчэ хацелі б сумясьціць (як гэта рабіў Лукашэнка) разам з выбарамі прэзыдэнта (паўтараю, па лукашысцкай канстытуцыі), каб дадаткова ўплываць на вынікі рэфэрэндума. Так робяць пры дыктатарскіх рэжымах. Гэта маніпулятыўны мэтад.

У сапраўднасьці адразу пасьля аўтаматычнага вяртаньня Канстытуцыі-94 прэзыдэнт ўжо павінен дзейнічаць пад яе юрысдыкцыяй. Па Канстытуцыі-94 і выбарчым законе, заснаваным на гэтай Канстытуцыі, напачатку прызначаюцца выбары ў парлямэнт, а ўжо потым пасьля парлямэнцкіх папраўак Канстытуцыі аб паўнамоцтвах прэзыдэнта, адбываюцца выбары гэтага прэзыдэнта. Такім мусіў бы быць шлях да дэмакратыі і парлямэнтарызму.

### Аб чыноўніках і адміністрацыі

Калі пасьля зьмены ўлады не ліквідаваць сыстэму ўладнай вертыкалі, не зьмяніць адміністрацыю і ключавых чыноўнікаў і не правесьці элемэнтарную люстрацыю (нават самую мяккую), — пераменаў не адбудзецца. Старая сыстэма працуе па-старому. Беларусь такое праходзіла ў 90-х, калі пасьля здабыцьця незалежнасьці засталася ўся савецкая каляніяльная намэнклятура і структура ўлады.

Перад намі пакуль што нерэальны плян Масквы-Газпрама (кажу "нерэальны", бо залежыць ад Лукашэнкі і Ярмошынай), выкананьне якога пастаўлена на Ціханоўскую.

Паліттэхноляг, які рыхтаваў тэкст выступу Ціханоўскай, альбо прафан ў дзяржаўным будаўніцтве, альбо цынік, які лічыць прафанскім ўсё беларускае грамадзтва. Тым ня менш выступ Сьвятланы аформлены прыгожымі словамі і добрымі пажаданьнямі, у якіх, праўда, няма думак і прапановаў па адраджэньні Беларускай нацыі пасьля 26 гадоў рэпрэсіўнай русіфікацыі, нішчэньня беларускай мовы, школы, нацыянальнай асьветы, культуры, пасьля пэрманэнтнага разгрому фундамэнтальнай навукі, нацыянальнай адукацыі, літаратуры, мастацтва, беларускіх сродкаў масавай інфармацыі і журналістыкі.

Нам гэта зразумела. Магчыма толькі Сьвятлане нябачна і незразумела, хто хацеў бы выехаць на яе плячах, каб у чарговы раз захапіць уладу ў Беларусі.

Гэтым разам, мяркую, авантура не атрымаецца. Але задума ня добрая. Нядобрая, бо можа мець шкодны працяг.

*21 ліпень 2020 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

**Уплаты ў Згуртаваньне**
**Складкі й ахвяраваньні:**

**П. Сікорскі ...............60**

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне "Пагоня" шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка "Пагоні"**
***Viktar Yedzinovich.***

*Паважаныя **Ю. Акуліч, К. Буяр, Я. Новікава, С. Сіткевіч,** калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

## Абвестка

Штомесячныя сходы Згуртаваньня "Пагоня", якія звычайна адбываліся ў другую суботу кожнага месяца, часова (да адмены ўладамі г. Нью-Ёрку забароны на правядзеньне масавых мерапрыемстваў) праходзіць ня будуць.

Сачыце за абвесткамі на старонцы "Пагоні" ў Фэйсбуку:
***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/?ref=group_header"***

***Шаноўныя сябры!***
*Калі ласка, своечасова абнаўляйце падпіску на "Весткі й Паведамленьні". Стан падпіскі глядзіце на канвэрце справа ад прозьвішча.*

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

**А. Гаршкоў ...............30**
**В. Кіпель ...............30**
**К. Пляўга ...............30**
**Усім шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка "Пагоні" **Viktar Yedzinovich**.*
*Падпіску таксама можна аформіць на сайце **www.e-krama.com***